


Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# рэгіянальная газета

16 мая 2003 года

№ 20 (421)
Выходзіць па пятніцах

ПЛЮС ТэлетыДзень

Навіны рэгіёну



## У гонар дырэктара

**МАЛАДЗЕЧНА.** На мінулым тыдні ў СШ №6 ўшанавалі памяць Сцяпана Дзямешкі.

У школе з'явілася мемарыяльная дошка ў гонар першага дырэктара, які ўзначальваў гэтую ўстанову 32 гады.

**Ірына РАБУШКА.**

## Запчасткі пад капотам

**АСТРАВЕЦ.** Жыхар Смаргоні хацеў разбагацець на аўтазапчастках і вёз іх праз пункт памежнага кантролю «Лоша».

Каб не плаціць мытных пошлін, ён схаваў запчасткі пад капотам сваёй машыны. Хітрыкі памежнікі хутка разгадалі, а суд канфіскаваў аўтазапчасткі ў даход дзяржавы. Смаргонец панёс урон больш за мільён рублёў.

**Аддзел інфармацыі «РГ».**

## Заквітнеюць сады

**ВАЛОЖЫН.** У раёне ўпершыню прайшла акцыя «Квітней садамі, родны край!»

На тэрыторыі школ, дзіцячых садоў, бальніц, прадпрыемстваў высадзілі каля 4 тысяч яблынь і больш за 1700 кустоў чорных парэчак. Іх перадаў фермер **Мікалай Дацкевіч** з Пружанскага раёна, які таксама паўдзельнічаў у акцыі.

**Наталля ШТЭЙНЕР.**

## Знайшлі гранату

**МЯДЗЕЛ.** Увечары ў нядзелю адпачываючыя знайшлі гранату на беразе возера Белае каля вёскі Гатавічы.

Высветлілася, што гэты небяспечны сюрпрыз захаваўся яшчэ з першай сусветнай вайны.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

## Юбілей касцёла

**ВІЛЕЙКА.** 9 мая ў Даўгінаве прайшло свята з нагоды 150-годдзя мясцовага касцёла.

У гэты дзень у касцёле адкрылі гістарычную выстаўку, на якой былі прадстаўленыя планы будаўніцтва касцёла і фатаграфіі ўсіх каяндзоў, якія тут працавалі.

**Людміла ПЯТРОВІЧ.**

## Новабудоўлі ў мікрараёне Карані

**СМАРГОНЬ.** У аўторак ў мікрараёне Карані адкрыўся хлебны магазін мясцовага хлебазавода.

У магазіне зроблены еўрарамонт, ўладкаваная аўтастаянка. Адкрыў яго старшыня райвыканкома Станіслаў Юргель. Гэта другая новабудоўля ў Каранях за апошнія 2 месяцы. У канцы сакавіка тут адкрылі раённую паліклініку.

**Ала СТРАШЫНСКАЯ.**

# Атыповая пнеўманія

**МАЛАДЗЕЧНА. Медыцынскі персанал і работнікі птушкафабрык хутчэй за іншых могуць захварэць на атыповую пнеўманію.**

Такая думка існуе сярод дактароў, якія сабраліся ў Мінскім абласным цэнтры гігіены і эпідэміялогіі на абласны семінар інфекцыяністаў і эпідэміёлагаў. У ім удзельнічаў і маладзечанскі доктар-інфекцыяніст гарадской паліклінікі **Мікалай Рамановіч**. Медыкі – таму што 90% тых, хто абслугоўваў хворых на атыповую пнеўманію, захварэлі самі. Работнікі птушкафабрык таксама з'яўляюцца групай рызыкі. Бо ёсць меркаванне, што першымі захварэлі птушкі.

М.Рамановіч расказвае, што атыповая пнеўманія – гэта запаленне лёгкіх, якое праходзіць не так, як звычайнае. Атыповая хутка развіваецца. Пачатак хваробы паступовы: чалавек адчувае недамаганне, слабасць, болі ў мышцах. Потым рэзка павялічваецца тэмпература цела да 38-39 градусаў. Сухі кашаль, які ўзнікае спачатку, пераходзіць у кашаль з вялікай колькасцю макроты. Пры атыповай пнеўманіі хутка пашкоджваюцца лёгкія і разбураюцца лёгачныя тканкі. Калі звычайная пнеўманія не заразная і пры ёй "хварэе" часцей адно лёгкае, то атыповая – заразная і "хварэюць" два лёгкія.

Атыповая пнеўманія перадаецца кантактна-бытавым (праз адзіныя посуд, рэчы туалета) і паветрана-капельным шляхамі (пры размове, чханні). З моманту заражэння да з'яўлення першых прыкмет хваробы праходзіць 3-7 дзён.

У свеце зарэгістравана 4% смяротных зыходаў сярод шпіталізаваных. Больш за ўсё хварэюць у Індыі, Кітаі, В'етнаме, Ганконгу. Ёсць выпадкі атыповай пнеўманіі у Англіі, Францыі, Германіі. У Беларусі такіх выпадкаў няма.

Беларускія медыкі, па словах М.Рамановіча, не дасведчаныя ў гэтай хваробе. Вакцыны няма. Доктар мяркуе, што атыповая пнеўманія магла ўзнікнуць, як вынік паражэння біялагічнай зброяй. І дадае:

-Гэтая хвароба можа з'явіцца і ў нас. Птушкі могуць захварэць скрозь і ўсюды. Шматлікія прадстаўнікі ўсходніх дзяржаў, што гандлююць у нас на рынку, могуць яе прывезці. Калі гэта біялагічная зброя, яна можа дайсці і да нас.

М. Рамановіч гаворыць, што на мытні ў Мінску вядзецца кантроль за тымі, хто прыязджае з небяспечных дзяржаў. "Калі ў чалавека ёсць прыкметы атыповай пнеўманіі, - працягвае доктар, - у першую чаргу пытаемся, адкуль ён прыехаў." У гарадской паліклініцы ёсць спецыяльны касцюм, у які апранаюцца пры надзвычай небяспечных інфекцыях. Надзяваюць акуляры, капюшон ці хусцінку, гумовыя пальчаткі, фартух і боты. Твар закрываюць 3-слойнай павязкай. За пояс засоўваюць ручнік, адзін канец якога змочаны дэзінфіцыраваным растворам. У такім касцюме можна працаваць не больш за 3 гадзіны.

**Ірына РАБУШКА.**



Звычайныя медыцынскі халат, павязка і шапачка не абароняць доктара ад заражэння атыповай пнеўманіяй. Доктар-інфекцыяніст Маладзечанскай гарадской паліклінікі Мікалай Рамановіч і медсястра Тамара Глуская ведаюць аб гэтым.

Фота Ірыны Рабушкі.

## Вечарына Ул.Арлова



Пісьменнік і гісторык Уладзімір Арлоў сустракаўся з выхаванцамі дома-інтэрната.

2-я старонка

## Шляхецкі род



Гісторыя шляхецкага роду Вялікага княства Літоўскага, які звязаў свой лёс з Маладзечаншчынай.

6-7 старонкі

## Пераможца марафону



Маладзечанка Галіна Кавалёва выйграла ўсе 6 маладзечанскіх марафонаў.

9-я старонка

■ СУСТРЭЧЫ

# Вечарына Уладзіміра Арлова

**МАЛАДЗЕЧНА. 8 мая вядомы пісьменнік, паэт і гісторык Уладзімір Арлоў правёў творчую сустрэчу ў школе-інтэрнаце для дзяцей, якія хворыя на скаліёз.**

Дзеці і настаўнікі школы-інтэрната віталі госця невялічкім музычным канцэртам. Пісьменнік пачаў вечарыну "Спробай завершанага жыццяпісу". Расказаў, што нарадзіўся ў Полацку ў гады сталінізму. Пра каханне ў першым класе да Ірачкі, якой прысвячаў вершы. Але свае першыя творы Валодзя тады спаліў, бо баяўся, каб іх не ўбачылі бацькі.

Непаслухмяны хлопчык Валодзя часта ламаў правую руку, за што і атрымаў мянушку – Касцяная Рука. У тую пару марыў стаць вадалазам, савецкім шпіёнам і журналістам. Але пасля школы паступіў на гістарычны факультэт БДУ. Там набыў розныя гістарычныя веды, але толькі не пра Беларусь. Урэзаўся ў памяць запіс з канспекта: "Ефрасіння Полацкая – царкоўная мракабеска, которая курила «опиум народа». Мяркуе, што гісторыя, якую выкладалі ў 70-х гадах у БДУ, выхоўвала ў сапраўдных патрыётаў Беларусі комплекс непаўнацэннасці. Трэба было нешта змяняць, таму пачаў вывучаць гісторыю Беларусі самастойна. Вынікам даследчай работы стаў выхад 30 кніг. Арлоў больш за ўсіх любіць "Таямніцы полацкай гісторыі".



Пісьменнік і гісторык Уладзімір Арлоў адказвае на пытанні выхаванцаў Маладзечанскай школы-інтэрната для дзяцей, якая хворыя на скаліёз, куды ён прыехаў 8 мая. Фота Вольгі ПІЛІПЕНКІ.

Падчас сустрэчы пісьменнік прэзентаваў сваю новую кнігу "Мая краіна – Беларусь", якая выйшла ў Славакіі. Шчыры суразмоўца, Уладзімір Арлоў расказаў пра свае мары. Ён чакае ўступлення Беларусі ў Еўрапейскі Саюз і лічыць нашую краіну самай прыгожай. Асабліва прыгожыя нашыя жанчыны, найпрыгажэйшыя з жанчын усіх 15 краін, дзе яму давялося пабываць. Хоча, каб прэзідэнтам Беларусі стала жанчына і гадавала краіну як сваё дзіця. Заклікае ўсіх рускамоўных беларусаў пераадолець моўны бар'ер. Прапаноўвае пачаць з малога – гутарыць па-беларуску ў сваёй сям'і.

Уладзімір Арлоў абараняе рэпутацыю Васіля Быкава і Уладзіміра Някляева і падкрэслівае:

– Яны не эмігранты. Пакінуць Беларусь іх вымусілі абставіны, але ніхто ад яе не адрокся.

Пісьменнік расказаў прысутным пра цяперашні лёс Святланы Алексіевіч. Яна жыве ў Францыі і піша чарговую кнігу. Яна часта бывае ў Мінску. Сам Уладзімір Арлоў плануе закончыць сваю кнігу пра розныя краіны свету.

Ён, як і раней, піша ад рукі і не прымае камп'ютэр. Наладжвае творчыя вечары па Беларусі. Як кажа сам:

– Дапамагаю людзям быць па-сапраўдным незалежнымі ў сваіх поглядах, думках і дзеяннях.

**Вольга ПІЛІПЕНКА.**

■ СМАРГОНСКІЯ НАТАТКІ

# Настаўнік ад бога

**Заслужаны дзеяч культуры БССР Аляксандр Анісімавіч Дзяруга быў няўрымслівым, творчым чалавекам, якога хвалявала ўсё.**

Ён добра іграў на некалькіх музычных інструментах, мог сам сачыніць музычны твор і распісаць яго для аркестраў, якімі кіраваў. Гэта быў смаргонскі А.С.Макаранка, і вакол яго заўсёды было шмат дзяцей, якіх ён выхоўваў прыгажосцю.

У хаце па вуліцы Танкістаў быў раяль, мноства кніжак і нот. На сценах віселі яго ўласныя мастацкія фатаграфіі і рэпрадукцыі твораў вядомых мастакоў. У куце вялікага пакоя з круглым сталом Аляксандр Анісімавіч зрабіў сабе зручную фотакабіну, дзе кожны дзень працаваў па некалькі гадзін. Абклееная агульнымі шпалерамі залы, яна ніколькі не шкодзіла інтэр'еру.

Жонка Надзея Канстанцінаўна, значна маладзейшая за Аляксандра Анісімавіча, была яго верным сябрам усё жыццё. Закончыўшы Віленскую гімназію, яна добра іграла на раялі, свабодна валодала французскай і польскай мовамі.

Свайго сына Колю яна вучыла музыцы сама.

Коля – піяніст. Закончыў Беларускую дзяржаўную кансерваторыю. Працяглы час быў канцэрмайстрам Дзяржаўнай харавой капэлы імя Р.Р.Шырмы, а потым перайшоў на выкладчыцкую працу. Блізняты Таня і Жэня таксама сталі вядомымі людзьмі. Таня — біёлагам, а Жэня – скрыпачом, працуе ў Беларускай дзяржаўнай філармоніі.

Аляксандр Анісімавіч – першы мой настаўнік па музыцы – даў мне ў рукі цымбалы. З таго часу я прайграў на іх роўна 50 гадоў.

Каля Дома культуры мы часта бачылі гэтага прыгожага інтэлігентнага чалавека з вусікамі і сівізной на скронях. На сваім дамскім веласіпедзе ён хвіліна ў хвіліну прыязджаў на рэпетыцыі аркестра рускіх народных інструментаў, ці цымбальнага.

Яму былі неабыякавыя тыя, хто залішне прыкладаўся да чаркі ці проста дэбашыраў у сям'і. Ён мог хоць праз тыдзень знайсці таго хлапчука, які зламаў дрэўца ў парку, і правесці гутарку з бацькамі. Не раз і мне даставалася ад яго за свае паводзіны. Яго мы больш баяліся, чым сваіх бацькоў. І галоўнае, ён усё ведаў.

Са сваім фотаапаратам "Змена" ён быў у цэнтры ўсіх падзей. Святочныя дэманстрацыі, канцэрты, святы песні і працы, вясельныя ўрачыстасці, лепшыя людзі горада, спартыўныя спаборніцтвы і дзеці былі любімымі тэмамі яго фатаграфій. Такая любоў да прыгажосці перадалася і нам, яго вучням. Я таксама хацеў быць падобным на Аляксандра Анісімавіча і займаўся мастацкай фатаграфіяй.

Часта сустракаюся з сынам першага настаўніка Мікалаем Аляксандравічам Дзяругам у сваёй маладзечанскай кватэры. Ён іграе на фартэпіяна творы майго любімага кампазітара Фрыдэрыка Шапэна і свае ўласныя прэлюдыі. Прыгожы твар Колі, сівыя валасы мне вельмі нагадваюць яго бацьку, цудоўнага чалавека, 100-годдзе з дня нараджэння якога было ў мінулым годзе.

Хочацца верыць, што па вуліцы Танкістаў на доме, у якім жыў наш дарагі маэстра А.А.Дзяруга, з'явіцца мемарыяльная дошка з дрэва, выкананая народнымі майстрамі, якімі так багата смаргонская зямля.

**Юрый ЦЕРАБУН.**

■ ПЫТАЙЦЕСЯ–АДКАЗВАЕМ

# Рамонт у школах і садах

**Ці выдзяляе грошы гарадскі аддзел адукацыі на рамонт школ?**

**Вольга Шыловіч**
**Маладзечна, вул.Прытыцкага, 12**

**Хто выдзяляе грошы на рамонт дзіцячых садоў?**

**Карына Данілевіч**
**Маладзечна, вул.Міру, 8**

Адказвае галоўны бухгалтар гарадскога аддзела адукацыі (гарАА) **Юлія Бахар:**

– На рамонт школ і дзіцячых садоў грошы выдзяляюцца. У пачатку года эканамісты гарАА складаюць каштарыс. У гэтым удзельнічае і гаспадарчая група гарАА, якая ходзіць па садах і школах і глядзіць каму-што патрэбна адрамантаваць. Потым узгадняем наш спіс з гарвыканкомам. Фінансавы аддзел гарвыканкома выдзяляе грошы гарАА, тыя даюць на рамонт школ і садоў на працягу года.

Не ўсе школы і сады рамантуюцца штогод. Складзены спецыяльны план работ. За кошт гарАА рамантуюцца фасады, дахі, выконваюцца аварыйныя работы. У школьных класах і групах дзіцячых садоў рамонт робіцца за кошт бацькоўскіх грошай. Гарвыканком і Мінаблвыканком абавязалі нас прыцягваць грошы бацькоў. Ёсць пастановы гэтых структур, што мы павінны збіраць 30% па-за бюджэтам.

**Падрыхтавала Ірына РАБУШКА.**

■ ЛЁСЫ

# З Ашмянаў – да міланскай «Ла Скалы»

**Да нядаўняга часу імя опернага спевака Аляксандра Восіпавіча Батурына ў беларускіх выданнях не згадвалася.**

Няма пра гэтую асобу артыкула і ў "Энцыклапедыі літаратуры і мастацтва Беларусі": Добра, што ўзгадаў нашага земляка (нарадзіўся будучы майстар сцэны ў 1904 годзе ў мястэчку Ашмяны) Аляксей Пяткевіч у даведніку "Людзі культуры з Гродзеншчыны".

А яшчэ і цяпер час ад часу ў расійскім перыядычным друку з'яўляюцца паведамленні накшталт гэтага: "Аляксандр Восіпавіч Батурын нарадзіўся ў мястэчку Ашмяны пад Вільнюсам (Літва)...". І атрымліваецца, што толькі тут, у Беларусі, мы ведаем, дзе знаходзяцца тыя Ашмяны.

Нарадзіўшыся ў сям'і сельскага настаўніка, сем гадоў свайго жыцця Аляксандр правёў у Беларусі. Хто ведае, якія гукі, якія пахі і колеры былі найбольш даспадобы таленавітаму, чуйнаму да прыгожага хлопчыку. Але і гукі, і колеры, і пахі былі, зразумела, выразна беларускімі. Якімі тады, на пачатку XX стагоддзя, былі Ашмяны? У мястэчку – каля 8000 насельнікаў. Працавала некалькі невялікіх заводаў: гарбарны, мінеральных водаў, медаварны, солодаварны... Былі тытунёвая фабрыка. Млын. І, канешне ж, — прыгожая ва ўсе часы рака Ашмянка. Але не часта бегаў да ракі хлопчык. Як толькі дзіцяці споўніўся год, памёр бацька. А ў 1911 годзе Батурыны пакінулі Ашмяны, пераехалі ў Адэсу.

На руках у маці было трое дзяцей. Заўсёды нястача. Падлетак Аляксандр Батурын паступае на курсы аўтамеханікаў. У 15 гадоў ужо водзіць аўтамабіль. І за рулём, і калі рамантуе машыну, любіць спяваць. Сябры прыцягнулі Аляксандра да заняткаў у мастацкай самадзейнасці. Здарылася так, што спевы аўтамеханіка пачулі прафесійныя выканаўцы. Далі высокую ацэнку. Батурын і сам адчуваў, што ў яго ёсць калі не талент, то ўжо абавязкова – адольнасці. Здаралася, юнак слухаў і лепшыя галасы Расіі. У гады яго юнацтва на гастролі ў Адэсу прыязджалі тэнар Аляксандр Алтайскі-Яшчанка, камерны спявак Іван Алчэўскі, бас-барытон Аляксандр Альтшулер (вядомы больш як Альтуці) ды і шмат хто яшчэ.

Саюз транспартных рабочых накіроўвае Батурына на вучобу ў Пецярбургскую (тады Петраградскую) кансерваторыю. На ўступных экзаменах абітурыента заўважыў сам рэктар — Аляксандр Канстанцінавіч Глазуноў. Ён выдае таленавітаму маладому чалавеку самую высокую адзнаку. Колішні ашмянскі хлопчык трапляе ў клас прафесара І.Тартакова. Сярод настаўнікаў маладога спевака – і славуты оперны артыст, камерны спявак і таленавіты музычны педагог Канстанцін Ісачанка. Будучы маладзейшым за свайго выкладчыка, прафесара сольных спеваў і камернага ансамбля, Батурын праз гады выканаў партыі ў тых жа операх, што і Канстанцін Сцяпанавіч. Праўда, партыі спявалі розныя. Яно і зразумела. У настаўніка – лірычны тэнар. У вучня – бас-барытон.

У кансерваторыі маладога спевака адзначылі стыпендыяй імя Барадзіна. На выпускных экзаменах зноў жа Батурын атрымлівае высокую адзнаку. Рэктар Глазуноў у заліковай ведамасці пазначае: "...голас прыгожага тэмбра, моцны і сакавіты. Яркі талент. Яснае вымаўленне. Пластычная дэкламацыя. Пяцёрка з плюсам!". Нарком асветы накіроўвае Батурына для ўдасканалення ў Рым. Аляксандр вучыцца ў музычнай акадэміі пад кіраўніцтвам Маціа Басані. Выступае з канцэртамі ў Італіі, Францыі, Бельгіі, Германіі. У міланскім тэатры "Ла Скала" Батурын выконвае партыі Дона Базілія і Філіпа II у "Дон Карласе", выступае ў операх "Басцьен і Басцьена" В.А.Моцарта і "Кален" К.В.Глюка. У сценах "Ла скалы" рускі спявак, відавочна, узгадваў тых, хто і раней прыязджаў сюды. Мо' ведаў і згадваў Наталлю Карафу з яе польска-беларускімі карэннямі? Мо' – віцяблянку Адэлаіду Казлоўскую, якая гастралявала ў "Ла скале" ў 1907 годзе? Са славутым міланскім тэатрам былі звязаныя і лёсы іншых землякоў Батурына. У 1908 годзе дэбютавала ў "Ла Скале" мінчанка Ганна Мейчык.

У 1927 годзе Батурын вярнуўся ў Расію. Спевака залічваюць салістам у Вялікі тэатр. Больш за 30 гадоў спявае ўраджэнец Ашмян на вядомай усяму свету сцэне. Паралельна працаваў у Маскоўскай кансерваторыі. Жонка Аляксандра Восіпавіча – Вера Георгіеўна Дулава. Народная артыстка Расіі (1966). Народная артыстка СССР (1976). Вядомая свету арфістка, музычны педагог. У 1932-1984 гадах яна працавала ў аркестры Вялікага тэатра.

Батурын і Дулава сабралі за сваё жыццё велізарную калекцыю твораў выяўленчага мастацтва. Ці памятаў прафесар і спявак Аляксандр Батурын пра Ашмяны, пра раку Ашмянку, пра свае беларускія вытокі?..

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

■ СПАЖЫВЕЦКІЯ КЛОПАТЫ

# Вучыцца ніколі не позна

**МАЛАДЗЕЧНА. У нашай краіне ў 99 навучальных установах выкладаюць асновы спажывецкіх ведаў. Роўна трэць прыходзіцца на Маладзечна і Маладзечанскі раён.**

Гэтую лічбу старшыня Маладзечанскага таварыства абароны спажыўцоў Уладзімір Клешч лічыць сваёй заслугай. Ён атрымаў дыплом ад грамадскага аб'яднання «Беларускае таварыства абароны спажыўцоў» за важкі ўклад у развіццё і станаўленне спажывецкай адукацыі Беларусі.

У. Клешч гаворыць, што на Маладзечаншчыне расце маладое пакаленне, якое валодае спажывецкімі ведамі. Гэта выгадна. Бо няведанне сваіх спажывецкіх правоў абыходзіцца ў капеечку ў першую чаргу самім спажыўцам. А тыя, хто ведае свае правы, падзеляцца сваімі ведамі з сябрамі, сваякамі і роднымі – гэта выгадна дзяржаве – і сэканоміць свае грошы, час і нервы – гэта выгадна самім спажыўцам.




Маладзечна. 14 мая. У гэтага прадаўца, які працуе на калгасным рынку, ёсць бэдж з імем, прозвішчам і фатаграфіяй. Цывілізаванаму гандлю ёсць у каго вучыцца.

Фота Ірыны РАБУШКІ.

### Каму веды замінаюць

Хоць гэта і парадокс, але ў сённяшніх умовах прадпрымальнікам нявыгадна выконваць гандлёвыя правілы. Яны гэтага і не робяць. Уладзімір Клешч заяўляе, што на ўсіх гарадскіх рынках парушаецца Закон "Аб абароне правоў спажыўцоў" і іншыя дакументы, якія рэгламентуюць правілы гандлю. Калі ісці па закону, прадпрымальнік павінны даваць прадаўцу інфармацыю пра сябе: прозвішча, імя і імя па бацьку, поўную інфармацыю пра тавар (марка, мадэль, цана), абавязкова выдаваць таварны чэк. На кожнай палатцы ці кіёску павінна быць шыльдачка з імем уладальніка і нумарам ліцэнзіі, прадавец павінен мець бэдж са сваім імем і прозвішчам. А на практыцы атрымліваецца, што спажыўцы часта не ведаюць, у каго яны купілі тавар. Ад гэтага пакутуюць спажыўцы, якія рызыкуюць застацца і без грошай, і без тавару, калі ён не належнай якасці.

А што адміністрацыі рынкаў? Яны павінны сачыць за выкананнем усіх гандлёвых правілаў і нормаў. Кожны спажывец ведае, што пытанняў да адміністрацыі ў гэтым плане яшчэ шмат і шмат. А чаму так? Уладзімір Клешч мяркуе, што адміністрацыі рынкаў не зусім выгадна сачыць за прадпрымальнікамі. Каб прадаўцоў прывучыць да парадку, без пакарання не абыдзецца. Дойдзе і да таго, што кагосьці трэба будзе пазбаўляць гандлёвага месца на рынку ці ўвогуле часова спыніць дзеянне ліцэнзіі. Але выкінеш прадпрымальніка з рынку – згубіш грошы, якія ён плаціць рынку за месца. А каму хочацца змяншаць свае даходы?

### Трэба шукаць выгаду

Пры цывілізаваным гандлі прадпрымальнікі будуць толькі траціць. Яны стараюцца купіць танны тавар за мяжой. Зразумела, чаму. Невысокія даходы асноўнай масы гараджан не дазваляюць ім часта рабіць дарагія пакупкі. Таннасць – не сінонім якасці. І не вельмі дзіўна, калі ў сотні пар абутку, якую прадпрымальнік скупляе оптам, адна-дзве пары акажуцца няякаснымі. Пры цывілізаваным гандлі, з бэджыкамі і чэкамі, гэты тавар будуць вяртаць і прасіць назад грошы.

Але трэба абараняць і прадпрымальнікаў. Яны таксама не вінаваты, што бывае няякасны тавар, бо на вока немагчыма вызначыць: якасны ці няякасны тавар яму прапануюць на аптовым рынку. Прадпрымальнікаў трэба вучыць, трэба, калі што, і караць. Але без перагібаў. Бо чым больш прадпрымальнікаў будзе на рынках, тым менш будзе людзей, якія застаюцца без работы, тым больш будзе падаткаў ісці ў бюджэты, тым танней будзе прапаноўваемы тавар - канкурэнцыя прымусіць змагацца і за цану, і за якасць.

### Тэорыя з практыкай

Хочаш-не хочаш, а да цывілізаванага рынку ісці трэба. Таму і бэджыкі, і чэкі рана ці позна з'явяцца. Добра было б узяцца за гэтую справу як мага хутчэй. Уладзімір Клешч лічыць, што гэта зрабіць не вельмі складана. Трэба сабраць прадпрымальнікаў і папярэдзіць пра ўзмацненне кантролю за іх дзейнасцю. Праз тыдзень сабраць камісію з прадстаўнікоў гарвыканкома, таварыства па абароне правоў спажыўцоў, фінансавай міліцыі і зрабіць кантрольныя закупкі. Хто парушае закон, тых пазбавіць месца на рынку на працяглы час. Потым яшчэ раз сабраць прадпрымальнікаў і растлумачыць свае дзеянні. Калі пакараеш 2-3 чалавек, іншыя задумаюцца. І на рынках будзе парадак.

### Таблетка ад прагнасці

У кабінеце Уладзіміра Клешча вісіць таблетка ад прагнасці.

— Я часта раю спажыўцам, якія прыходзяць да мяне са скаргамі, звярнуць увагу на гэтую таблетку. Бо вельмі многа такіх, хто патрабуе ад іншых шмат, а сваіх абавязкаў не ведае. Прыходзіць без чэка, а хоча і вярнуць грошы, і яшчэ атрымаць кампенсацыю за маральную шкоду пры спажыванні няякаснага тавару. Натуральна, без медыцынскай даведкі аб атрыманай траўме.

Так атрымалася, што і спажыўцы, і пакупнікі дрэнна ведаюць правы. Савецкім часам на кожным вытворчым прадпрыемстве, мытні быў аддзел тэхнічнага кантролю. Таму спажыўцы былі добра абаронены ад бракаваных тавараў. Затое цяпер спажывец абаронены законам, чаго не было раней. Толькі неабходна ведаць элементарнае: без чэка няма чалавека (калі ў вас няма дакумента, то вы нічога не зробіце) і кожны мае права на абарону сваіх правоў.

Трэба зрабіць так, каб цывілізаваны гандаль быў выгадны прадпрымальнікам. У Польшчы, напрыклад, тым, хто выконвае законы, штогод уручаюць знак "Сябар спажыўца" з адпаведным паведамленнем у сродках масавай інфармацыі. Гэты знак вельмі прэстыжны, і яго хоча атрымаць кожны – гэта своеасаблівы знак якасці за сваю работу. І ў нас трэба зрабіць так, каб спажывецкія веды былі запатрабаваныя па абодвух баках прылаўка.

**Юрый КАРПІЦКІ.**

## Курсы валют НБ РБ

| | 7.05 руб. | 15.05 руб. |
|---|---|---|
| Долар ЗША | 2023,00 | 2029,00 |
| Еўра | 2269,40 | 2338,12 |
| Злоты | 535,26 | 540,46 |
| Літ | 657,15 | 677,18 |
| Расійскі рубель | 65,01 | 65,49 |

**«Вулічныя» курсы ў Маладзечне**

| | | |
|---|---|---|
| Долар | 2025/2033 | 2020/2030 |

Маладзечна

## Цэны на рынку

| Прадукты | Цана (руб.) 7.05 | 14.05 |
|---|---|---|
| Кілбаса с/вялен., 1 кг | 12100 | 12200 |
| Сасіскі, 1 кг | 3750 | 4050 |
| Селядзец, 1 кг | 2800 | 2800 |
| Рыс, 1 кг | 780 | 780 |
| Грэчка, 1 кг | 1400 | 1450 |
| Цукар, 1 кг | 1140 | 1140 |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 1100 | 1100 |
| Алей, 1 л | 1750 | 1800 |
| Маянэз, 200 г | 470 | 470 |
| Кава «Пеле, 100 г | 2200 | 2200 |
| Шпроты, бляшанка 160 г. | 750 | 750 |
| Соус там.«Мінскі», 0,5 л | 650 | 700 |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 950 | 1200 |
| Капуста, 1 кг | 1200 | 980 |
| Морква, 1 кг | 1100 | 1350 |
| Лімоны, 1 кг | 2100 | 2500 |
| Апельсіны, 1 кг | 1850 | 1750 |

### Сялянскія прадукты

| | | |
|---|---|---|
| Малако, 1,5 л | 700 | 700 |
| Смятана, 1 л | 2000 | 2000 |
| Масла, 1 кг | 4000 | 4000 |
| Тварог, 1 кг | 1800 | 2000 |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 1400 | 1400 |
| Бульба, 1 вядро | 3000 | 3000 |
| Яблыкі, 1 кг | 1200 | 1200 |

■ СЕМІНАРЫ

## Кантроль – агульнымі сіламі

**МАЛАДЗЕЧНА. У аўторак прайшоў абласны семінар работнікаў Камітэта дзяржаўнага кантролю і іншых праахоўных і кантралюючых органаў.**

Тэмай яго было ўзаемадзеянне розных праахоўных органаў. На семінары падзяліліся сваім вопытам і назіраннямі работнікі Камітэта дзяржкантролю, Дэпартамента па фінансавых расследаваннях, інспекцыі па падатках і зборах, Міністэрства ўнутраных спраў, кантрольна–рэвізійнага ўпраўлення аблвыканкома.

**Аддзел інфармацыі «РГ».**

■ ДАТЫ

# 10-гадовы юбілей «Фіесты»

**МАЛАДЗЕЧНА. 22 мая бардаўскае трыё «Фіеста» адзначыць сваё 10-годдзе.**

Чароўныя спявачкі **Святлана Кулашка, Наталля Паўлюшчык і Таццяна Багавец** ў гэты дзень сустрэнуцца са сваімі паклоннікамі на творчым вечары ў Доме культуры чыгуначнікаў. «Фіеста» - равесніца фестывалю беларускай песні і паэзіі, які праходзіць у Маладзечне. Але яны так і не сустрэліся - элітарная аўтарская музыка не адпавядае патрабаваням масавай поп-культуры.



**Удзельніцы трыо «Фіеста» Таццяна Багавец, Святлана Кулашка і Наталля Паўлюшчык гартаюць фотаальбом са сваіх канцэртаў і ўспамінаюць мінулае.**

Фота Вольгі ПІЛІПЕНКІ.

## Крок у мінулае

15 гадоў таму пасябравалі тры дзяўчыны. Святлана добра іграла на фартэпіяна, а Наталля і Таццяна таксама мелі музычную адукацыю: абедзве скончылі музычнае вучылішча. Усім траім вельмі падабалася аўтарская песня. Вырашылі паспрабаваць сачыняць і пець. Атрымлівалася. І сапраўдную пуцёўку ў эстраднае жыццё маладзечанкам даў фестываль аўтарскай песні «Саяны-92» у сібірскім горадзе Саянагорску. Святлана Кулашка ўспамінае:

— Вялікая зала на 600 месцаў спачатку выклікала пачуццё страху. Але потым апладысменты і адчуванне падтрымкі гледачоў надалі ўпэўненасці.

Адразу жаночаму калектыву прарочылі кароткую будучыню - не больш за 5 гадоў. Гаварылі, што яны перасварацца за ролю лідэра, грошы ці проста ў іх будзе недахоп матэрыялу для новых песень. «Фіеста» слухала гэтыя прагнозы і даказвала адваротнае. Іх запрашалі на розныя фестывалі аўтарскай песні ў Беларусі і за яе межамі. Усяго ў калекцыі «Фіесты» 26 дыпломаў за ўдзел і перамогі на гэтых фестывалях. Самы любімы фестываль у «Фіесты» - фестываль бардаўскай песні ў Славуцічы. Падабаецца спявачкам бард-лагер, які штогод прымае Крым, але знаходжанне там вельмі дарагое для маладзечанскіх бардаў.

## Музыка душы

«Фіеста» - трыо рускамоўнае. Песні пішуць самі. Яшчэ дапамагае **Ганна Панкратава**. Беларускіх песень адносна мала, але ў «Фіесты» ёсць і беларускамоўны аўтар - **Алена Ліхадзіеўская-Краўчанка**. Увогуле, спявачкі лічаць, што ў песні галоўнае - гэта сэнс. Таму матэрыял абмяркоўваюць усе разам, і кожны туды ўносіць нешта сваё.

За 10 гадоў творчасці трыо выпусціла 4 аўдыёкасеты: «Фіеста-1» (1995), «Свой востраў» (1995), «Маленькі Анюціч» (1997), «Фіеста-2» (1997). Летась «Фіеста» выпусціла першы кампакт-дыск «Нам 10 гадоў». Спявачкі не жадаюць, каб іх творы прадаваліся ў кожным гарадскім музычным кіёску. Ужо мелі горкі вопыт, калі ад адной з іх песень стала дрэнна: падчас аднаго з фестываляў у гадзіну ночы ў суседнім з «Фіестай» гасцінічным нумары 12 разоў запар пракруцілі на магнітафоне адну з песень «Фіесты». Хапіла тады маладзечанкам пад завязку.

Спявачкі зазначаюць, што іх музыка не для ўсіх вушэй. Лепш яе слухаць дарослым — ад 25 гадоў — ці зусім маленькім. Абсалютнай большасці нашых падлеткаў творчасць «Фіесты» будзе не цікавай, бо моладзь у асноўным не задумваецца над сэнсам песні. Ім галоўнае - патанцаваць.

Каб адпачыць ад сваёй творчасці, Наталля, Святлана і Таццяна слухаюць калег-бардаў. Падабаецца творчасць Алега Міцяева, Ірыны Рышчанкі, дуэта Аляксея Івашчанкі і Георгія Васільева.

## Не пра творчасць

Акрамя аўтарскай песні спявачкі маюць і звычайнае жыццё: з работай і сям'ёй. Таццяна Багавец і Наталля Паўлюшчык - настаўнікі-канцэртмайстры Маладзечанскай беларускай гімназіі. Выкладаюць там у клубе аўтарскай песні. Іх радуе, што выхаванцы клуба працягваюць спяваць і пасля заканчэння школы. Асабліва ганарацца «скарбам сваёй працы» - дуэтам **Таццяны Бойкі і Таццяны Пішчакі**. Яны ў пачатку мая сталі лаўрэатамі конкурсу «Зоркі Маладзечна».

Уласнае жыццё спявачак таксама цікавае. Яны выйшлі замуж за траіх сяброў. Усе яны займаюцца ў клубе усходніх адзінаборстваў «Белы журавель». Сяброўкі і сябры дамовіліся не перашкаджаць захапленням адзін аднаго. Так і жывуць. Разам гадавалі першынца Наталлі і Сяргея - сына Улада, якому цяпер 9 гадоў. Ён, артыст «на колах», не прапусціў ніводнага канцэрта «Фіесты» нават у гадавалым узросце. Потым у Наталлі і Сяргея Ракітаў нарадзіўся яшчэ адзін сын - Георгій, якому цяпер 4 гады.

Таццяна з мужам Аляксеем гадуюць 4-х гадовую Аляксандру. Дзяўчыну назвалі па імені галоўнага персанажа фільма «Масква слязам не верыць», які вельмі падабаецца Таццяне.

Святлана працуе сакратаром-рэферэнтам у прыватнай фірме. У Святланы і мужа Валерыя ёсць 5-гадовая дачка Паліна. Прыбаўлення ў сем'ях члены «Фіесты» не чакаюць. Жартуюць, што дасягнулі раўнавагі паміж хлопчыкамі і дзяўчынкамі: 2 на 2.

## Мары

На пытанне: «Аб чым марыце?» спявачкі адрэагавалі неяк сумна. Зразумела, банальнае пытанне. Але ўсё ж такі задумаліся.

Як сапраўдныя маці і жанчыны жадаюць здароўя і спакойнага жыцця родным. Святлана вельмі хоча пайсці ў адпачынак і чакае гэтага ўжо 6 гадоў. Гаворыць, што няблага было б летам з'ездзіць у Крым. Утраіх зрабілі б падарожжа ў Індыю, Італію і Егіпет, каб пазнаёміцца з іншай культурай.

Адна мара - новы альбом - хутка здзейсніцца. У бліжэйшы час «Фіеста» пачне запіс у студыі Маладзечанскай гімназіі. Ёсць матэрыял і для дзіцячага альбома.

## Розныя, але разам

Кожная спявачка незаменная ў сваёй галіне. Таццяна адказвае за музычны матэрыял і ўжываецца ў ролю суддзі пры спрэчках. Заўсёды цаправіць і паўшчувае сябровак, якія, часам, разлянуюцца. Святлана выручае падчас інтэрв'ю ў прамым эфіры, на ўрачыстасцях, калі адказвае за ўсіх. Акрамя гэтага, яна - камерцыйны дырэктар «Фіесты» і лічыць, што шчасце не ў грашах, а ў тым, як іх траціць. Наталля - дыпламат, які стварае мікраклімат у «Фіесце».

Нягледзячы на тое, што спявачкі - вельмі розныя людзі, іх шмат аб'ядноўвае. Сяброўства, творчасць, мужы-аднадумцы, успаміны аб сумесных канцэртах і смешных гісторыях, якія часам здараліся, а галоўнае - любоў і адданасць аўтарскай песні. Іх дэвіз - гэта радок з песні «Льготны білет»: «Нет, мы не плачем, нам ли жалеть о былом?».

**Вольга ПІЛІПЕНКА.**

■ АФІЦЫЙНА

# Два дні замест трох

**МАЛАДЗЕЧНА. Нацыянальны фестываль беларускай песні і паэзіі сёлета будзе доўжыцца 2 дні замест 3-х, як гэта склалася традыцыйна.**

Загадчыца аддзела культуры гарвыканкома **Надзея Сідарэнка** сказала, што так атрымалася з-за недахопу грошай. Фестываль пройдзе 20-21 чэрвеня. Нaконт падрыхтоўкі да яго было 5 нарад, на якіх далі заданні кожнаму, хто ў ёй удзельнічаў. Мясцовыя і мінскія прадпрыемствы робяць друкаваную прадукцыю. Маладзечанскія мастакі працуюць над фестывальным афармленнем горада. Развесяць шары, чаго раней не рабілі. Па гораду будуць ездзіць па-святочнаму размаляваныя 5 аўтобусаў. Гандлёвыя кропкі будуць працаваць пакуль не скончыцца канцэртная праграма. Спіртныя напоі, у тым ліку і піва, прадаваць не будуць. Завод металічных канструкцый ужо заканчвае рамантаваць абсталяванне для галоўнай сцэнічнай пляцоўкі, што размесціцца на Цэнтральнай плошчы. Агароджаная "глядзельная зала" разлічаная тут прыкладна на 4,5 тысячы чалавек. Для 2-х тысяч чалавек рыхтуюцца запрашальныя білеты. Уваходны білет будзе каштаваць 2 тысячы рублёў.

Праграма фестывалю яшчэ распрацоўваецца. "На мінулым фестывалі гэтай парой яна ўжо была прыкладана вырысавана. Сёлета я ўпершыню нічога не ведаю, – гаворыць Н.Сідарэнка. – Толькі тое, што ў парку і цэнтральнай гарадской бібліятэцы пройдуць творчыя сустрэчы з паэтамі." І тут жа Надзея Сідарэнка патэлефанавала ў Мінск да **Льва Бажко**, які займаецца арганізацыйна-тэхнічнымі пытаннямі падрыхтоўкі да фестывалю. Ён пацвердзіў, што над фестывальнай праграмай працуюць. Але чаго чакаць маладзечанцам і гасцям, дакладна не ведае. Сказаў толькі, што на Цэнтральнай плошчы будзе канцэрт памяці Мулявіна.

Што тычыцца конкурснай праграмы, то, на думку Н.Сідарэнкі, накалу тут не будзе. Адборачныя туры пачаліся яшчэ летась. Галоўны апошні тур прайшоў у аркестравым офісе мастацкага кіраўніка-дырэктара, народнага артыста, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Беларусі прафесара **Міхаіла Фінберга**. Потым у тэлевізійных навінах перадалі імёны пераможцаў. З нашага рэгіёну канкурсантаў няма.

Але нейкі запал у чаканні фестывалю ўсё ж такі ёсць. І ў чаканні святочнага салюту таксама.

Засталося 35 дзён.

**Ірына РАБУШКА.**

■ МЕРКАВАННЕ

# Фестываль без мясцовых спевакоў

**ВІЛЕЙКА, МАЛАДЗЕЧНА. За 10 гадоў існавання нацыянальнага фестывалю беларускай песні і паэзіі канкурсантаў з нашага рэгіёну можна пералічыць па пальцах. Чаму так адбываецца?**

Кіраўнік вілейскай эстраднай студыі «Экспромт» **Нэлі Зайцава** і в.а. загадчыка аддзела культуры Маладзечанскага райвыканкома **Тамара Дудзіч** мяркуюць, што віляйчане і маладзечанцы былі б моцнымі канкурэнтамі. У рэгіёне ёсць вялікая цікавасць да эстраднай песні. Асабліва гэты жанр удасканальваецца ў Маладзечне і Вілейцы. Тамара Дудзіч заўважае, што ў Маладзечанскім раёне, у параўнанні з горадам, з-за недахопу грошай жанр развіваецца горш.

— Эстраду вельмі любяць дзеці. А вось народная песня крыху адышла, - працягвае Нэлі Зайцава.

Мясцовых спевакоў ёсць дзе паслухаць. Для гэтага створаны рэгіянальны фестываль эстраднай песні «Адна зямля», які штогод па чарзе прымаюць раёны нашага рэгіёну. Гэты фестываль дапамагае знайсці новыя таленты. Але Нэлі Зайцава мяркуе, што з часам ён можа памерці. Бо ва ўмовах конкурсу ёсць правіла: пераможца губляе права ўдзельнічаць у конкурснай праграме далейшых фестываляў. Кіраўнік «Экспромта» засмучаецца гэтым, таму што моцныя спевакі склалі б канкурэнцыю іншым.



**Пераможца мінулага фестывалю "Адна зямля", які праходзіў у Рымдзюнах, віляйчанін Казімір Талстыка.**

Архіў "РГ".

У фестывалі ўдзельнічаюць спевакі ад 15 да 30 гадоў. На думку Н. Зайцавай, можна дапускаць да фестывалю і 12-гадовых дзяцей. Да ўдзелу ў конкурсе 12-15-гадоў - самы спрыяльны ўзрост. Успомнім, летась Вольгу Ільіч з Маладзечанскага раёна пазбавілі перамогі ў малодшай узроставай групе толькі за тое, што яна не ўпісалася ва ўзроставыя рамкі: тады ёй было 14 гадоў. Старэйшых дзяцей знаходзіць складана - яны пасля школы часта паступаюць вучыцца далей і з'язджаюць з дому. Меншым жа дзецям няма дзе ўдзельнічаць. Як і ранейшыя пераможцы, яны вымушаныя варыцца ва ўласным соку.

А нацыянальны фестываль беларускай песні і паэзіі, па словах Н. Зайцавай, мае сэнс толькі для тых, хто туды трапляе.

**- Чаму маладых «зорачак» у нас шмат, а на вялікую сцэну прабіваюцца адзінкі?**

- На вялікай сцэне шмат артыстаў не трэба. Ды і зразумела, што прабіцца туды можна толькі за грошы.

А Тамара Дудзіч лічыць, што нацыянальны фестываль песні і паэзіі - гэта штуршок наперад у развіцці беларускай культуры. І ён нічолькі не саступае "Славянскаму базару" ў Віцебску.

**Ірына РАБУШКА.**

**Лаўрэаты другога Маладзечанскага гарадскога конкурсу юных журналістаў "Залатое пяро" Насця Нарэйка, Насця Сідаровіч і Вікторыя Якімовіч за "круглым сталом" у рэдакцыі "РГ" падчас урачыстага ўшанавання пераможцаў конкурсу.**
**Як мы паведамлялі ў мінулым нумары, у Маладзечне прайшоў другі гарадскі конкурс юных журналістаў "Залатое пяро". У конкурсе ўдзельнічала каля шасці дзесяткаў работ. Найлепшыя, на наш погляд, нататкі мы падрыхтавалі да публікацыі. Цікавых работ было нашмат больш, чым тых, што вы цяпер прачытаеце, але на тое і конкурсы патрэбныя, каб лепшых вызначыць. Усім удзельнікам конкурсу жадаем плённай вучобы і вострага пяра.**



Фота Ірыны РАБУШКІ.

# Матчына мова

Родная беларуская мова... Дзе пачуеш цябе? Хто гаворыць на матчынай мове? Адзінкі. У школах, інстытутах вывучаюць нашую мову, але амаль немагчыма пачуць, што там на перапынку гавораць пабеларуску. Не ўсе і пасля заканчэння сваіх навучальных устаноў могуць добра, прафесійна гаварыць на матчынай мове.

Складваецца ўражанне, што беларусы цураюцца роднай мовы. Але чым жа наша мова адрозніваецца ад якой-небудзь іншай? Чаму мы не саромеемся гаварыць па-руску, жывучы ў Беларусі. Родная мова такая прыгожая і непаўторная. Але мала хто гэта заўважае.

Узяць, напрыклад, Англію. Там размаўляюць на англійскай мове, у Францыі - на французскай, а ў Беларусі - на рускай. Мабыць, толькі ў нас, у беларусаў, такое цяжкае становішча з мовай.

Як вядома, дзіця ўспрымае тую мову, на якой гавораць побач. Яно вучыцца гаварыць і разумець як усе. На якой бы мове ні размаўлялі навокал - на той мове яно і вымавіць свае першае слова. Калі б людзі пачалі зараз гаварыць на роднай мове, то, магчыма, праз некалькі гадоў наша мова адрадзілася б.

Шмат гадоў прайшло з таго часу, калі людзі змагаліся за тое, каб размаўляць, вучыцца і друкаваць на беларускай мове. Але што здарылася з намі, з нашчадкамі? Чаму ж мы не спрабуем адрадзіць мову, чаму гэта нас не хвалюе? Хто ў гэтым вінаваты? Ці маем мы права называцца беларусамі, калі цураемся сваёй мовы?

Лічу, каб адрадзіць мову, спачатку трэба навучыцца думаць на ёй. Потым услухацца ў яе і зразумець, што яна самая лепшая, самая меладычная і прыгожая. І тады нам будзе што пакінуць сваім нашчадкам.

Каб родная мова стала гаспадыняй на сваёй зямлі, мала толькі жадання і хацення яе сапраўдных сыноў і дачок, трэба намаганні ўсіх, усведамленне, што гэта неабходна, што гэта трэба, што інакш нельга. Што ж мы скажам нашым дзецям і ўнукам, калі спытаюць, чаму не бранілі сваю мову, чаму на ёй не размаўлялі, чаму не любілі і не шанавалі?

Што мы ім адкажам? Што?

**Анастасія СІДАРОВІЧ, лаўрэат Маладзечанскага конкурсу юных журналістаў «Залатое пяро».**

# Алёшка

Больш за ўсё на свеце Алёшка не любіць сонца. Калі раніцай яно пасылае свае промні ў пакой, хлапчуку здаецца, што яно нібы зацягвае туман у бясконцую прастору, і ён спалохана кліча маці. Іншая справа – вечар, калі яго за руку старэйшая сястра вядзе гуляць на поле, да царквы. На вуліцы да яго падскокваюць дзеці і, перабіваючы адзін аднаго, дружна хіхікаюць:

– А цябе ззаду сабака ўкусіць! А ты яе не бачыш!

Алёшка спалохана круціцца на месцы, а яго аднагодкі – задаволеныя сабой і крыху дурнаватыя – яшчэ мацней смяюцца: "Ну і сляпы!".

Затое на полі можна крыху пабегаць, можна пасядзець на лаўцы, можна нават пагладзіць нічыйную пушыстую копку. І калі цені ад дамоў усё больш чарнеюць, Алёшка нават можа распазнаць абрысы прадметаў.

Дамоў ён вяртаецца не надта хоча: бацька будзе глядзець аўтаралі або слухаць свой "метал", уключыўшы на поўную магутнасць магнітафон, маці сціпшыца на кухні і Алёшку, зашыўшыся ў кутку, ціха пачне шаптаць малітву да Святога Панцеляймона, які, як яна ведае, можа вылечыць любую хваробу. Хаця ўрачы – і маскоўскія, і мінскія – напісалі ў даведках, што хвароба гэтая генетычная і таму не вылечваецца.

Алёшкава мама ў душы спадзявалася на італьянцаў – іх вазілі ў Італію на адпачынак на цэлы месяц. Хлапчук трапіў у дружную сям'ю, дзе Антоніо і Марыя – так звалі мужа і жонку – вазілі яго са сваімі дзецьмі на мора, у кафэ, навучылі гуляць у шахматы і нават завезлі ў клініку, але і там урачы дыягназ пацвердзілі: Лёшка сонца не ўбачыць. Потым яму падарылі цэлы чамадан паношанага адзення і ў пісьме бацькам паведамілі, што іх Лёшка абышоўся ім вельмі дорага, але яны радыя, што змаглі хоць нечым дапамагчы, пры гэтым чамадан прасілі перадаць у наступны заезд з чарговай дэлегацыяй дзяцей. Калі ў яго спыталі ў школе, што ён любіць есці, Лёшка, памятаючы Італію, пажартаваў: "Гамбургеры". І настаўніца потым цэлы месяц не магла супакоіцца:

– Гамбургеры яму тут давай! Ты разумееш, што знясіліў усю Беларусь. Мала таго, што сляпы, ды яшчэ і дурань па поўнай праграме!

Але Лёшка – маленькая істота дзевяці год – ні на кога даўно не крыўдуе. Ён ведае адно: калі моцна-моцна папрасіць у Святога Панцеляймона і Дзевы Марыі, каб у іх з'явіўся зрок, то так яно і будзе. І тады ён, як вырасце, абавязкова пабудуе царкву, стане там святаром і за ўсіх-усіх сваіх прыхаджан будзе маліцца. І на кожнай пропаведзі будзе казаць пра тое, што нельга дражніць ні дзяцей, ні жывёл, і тады ўсім будзе добра. І нават падружыцца з сонцам, якое кожную раніцу будзе пасылаць праменьчык у яго пакой і залаціць купалы яго царквы.

**Вікторыя ЯКІМОВІЧ, пераможца гарадскога конкурсу юных журналістаў "Залатое пяро".**

# Кніжны свет

Мяне вельмі хвалюе тое, што людзі амаль перасталі чытаць кнігі.

Літаратура вучыць нас думаць і разважаць, адчуваць і спачуваць. Той, хто не чытае кніг, на мой погляд, без мазгоў і без сэрца. Нездарма адзін польскі пісьменнік казаў: «Мы ведаем жыццё па літаратуры, а той, хто нічога не чытае, і не ведае нічога».

Чаго толькі не робяць, каб ведаць змест кнігі, пры гэтым не чытаючы яе. Асабліва на розныя хітрыкі і вынаходствы ідуць школьнікі, для якіх чытанне твора, большага за 20 старонак, ператвараецца ў сапраўднае katаванне. Але цяпер «добрыя» дарослыя прыдумваюць шмат спосабаў, каб «аблегчыць» дзеткам жыццё.

Напрыклад, здымаць фільмы па якім-небудзь творы. І, здаецца, усё вельмі проста і зручна: паглядзеў і мучыцца не трэба. Але тут ёсць мінусы. Першы - гэта тое, што ў фільмах скарачаецца сюжэт, а часам і змяняецца сэнс твора. А другі - што кіно навязвае свае вобразы. Гэта я адчула на сабе. Спачатку я паглядзела фільм пра Гары Потэра, а потым прачытала кнігу. Як ні старалася ўявіць сабе галоўнага героя - не змагла. Перад вачыма стаялі акцёры з фільма.

Існуюць друкарні, якія спецыялізуюцца на выдавецтве брашур з кароткім зместам вялікіх твораў. Так, напрыклад, «Вайна і мір» змяшчаецца ўсяго на 30 старонках. Мяркую, што такія «кнігі» выдаюць далёка не літаратуразнаўцы, таму што сапраўдныя кнігалюбы проста не дазволілі б сабе такога вар'ярства. Скарочаны твор губляе філасофскі сэнс, літаратурную прыгажосць, тое, што хацеў данесці да нас пісьменнік. І, урэшце, самае горшае, у ва што можна было ператвaрыць класічныя творы - гэта коміксы. У Беларусі яны яшчэ не вельмі распаўсюджаныя, а вось у Маскве такое «кнігадрукарства» вельмі папулярнае.

**Наталля ІВАШКЕВІЧ, 7 «Г» клас СШ №14.**

# Бяздомныя сабакі

Бяздомныя сабакі... Мы часта сустракаем іх на вуліцы. Хворыя, брудныя, нікому не патрэбныя, яны баяцца людзей, а людзі - іх.

Калі паклікаць сабаку да сябе, пагладзіць яго, даць чагосьці паесці або проста сказаць яму нейкае слова, ён завіляе хвастом, і ў вачах, ужо шчаслівых, добрых, мільгане нейкая надзея. Надзея стаць зноў камусьці патрэбным.

А быў жа час, калі гэты вось сабака, а раней маленькі пушысты камячок, быў некаму так неабходны і патрэбны. Ён сустракаў гаспадара з работы, забаўляў яго дзяцей, лізаў рукі гаспадыні і быў членам сям'і. Што прымусіла гаспадароў выкінуць яго на вуліцу? Чэрствасць і абыякавасць. Нацешыліся, як з цацкі, - і на сметнік. Але, на жаль, гэтая цацка жывая, і ёй вельмі балюча, і яна не можа абараніць сябе.

Ідзём па вуліцы і зноў там ці тут - бяздомны сабака. Нехта кіне кавалак хлеба, а нехта штурхне нагой. А вочы... Цёплыя, поўныя болю, жалю. Яны просяць спагады і не трацяць надзеі, пытаюць: за што?

І мне здаецца, што адказ на гэтае пытанне трэба даць кожнаму з нас.

**Цімур СІДАРОВІЧ, 8 «А» клас СШ №8.**

# Чалавечая жорсткасць

Я не памятаю, што мне сказаў тады Антон. Праўна, нешта балючае і горкае, бо яго словы прымусілі мяне з плачам выбегчы з класа. І самым агідным для мяне было тое, што ўслед панёсся адзін толькі халодны смех.

Прыступкі зліваліся перада мною, а ён не адставаў ні на крок, гнаў і праследаваў. Я задыхалася, хапалася рукамі за поручні і плакала. Мне хацелася знікнуць, растварыцца ў люстэрку на сцяне фае, каб толькі не бачыць, не адчуваць гэтага ўсяго...

— Насця!

Пачуўшы сваё імя, я рэзка спынілася. Страх скаваў рукі і ногі, адабраўшы апошнюю магчымасць збегчы. Я не хацела нікога бачыць, асабліва Светку, з якой месяц таму мы прыйшлі ў гэты новы клас. Яна неяк адразу ўлілася ў «грамадства», і нашаму сяброўству прыйшоў канец.

Нечая рука лягла мне на плячо, і я была вымушаная азірнуцца. Перада мной стаяла «святая». Так называлі ў класе Ангеліну К., імя і прозвішча якой запомніліся мне адразу дакладна. Нешта ў гэтым было.

Аднакласніца ўзяла мяне за руку і павяла прэч са школы. Сад сустрэў нас рыпам веснічак, гаркаватым пахам восеньскіх яблычкаў казытнуў нос...

Успаміны змяняліся ў маёй галаве з шалёнай хуткасцю, як кінакадры. І ўсе яны, звязаныя з Ангелінай, адкрываліся мне ў чорным адценні. Асабліва старанна здзекаваліся з яе тыя самыя Антон і Светка. Пра сябе я назвала іх «паляўнічымі». Яны быццам спаборнічалі, каму больш разоў на дзень удасца давесці «святую» да слёз. Светка ўвесь час назірала за Ангелінай і выстаўляла на смех кожную яе памылку. Мала таго, яна ў адной зграі з Антонам распускала злосныя плёткі аб бацьках дзяўчынкі.

«Святая» любіла і даглядала класныя кветкі, часта, калі палівала іх, штосьці ціха ім шаптала. Ад добрых слоў зялёніна ў класе разрасталася, кветкі цвілі буйна і радасна. Толькі ў класе гэтага чамусьці не цанілі. Казалі, што ў Ангеліны з галавой нешта не тое, раз яна з вазонам размаўляе.

... Словы аднакласніцы, што яна гаварыла мне ў садзе, адбіваліся ад зямлі, неба, дрэў і траплялі мне ўдушу. Яна гаварыла так упэўнена і смела, што я не пазнавала той дзяўчынкі, якая ніколі не выскоквала на ўроках. І не проста гаварыла, а малявала мне сапраўднае жыццё. Тое, з якім я не здольная была звыкнуцца. Мне было тады так сорамна! Мой боль стаў нічым у параўнанні з яе болем.

Нашае грамадства спакон вякоў будавалася на супярэчнасцях. У ім было ўсё: зло і дабро, міласэрнасць і жорсткасць. Менавіта апошняе непакоіць мяне.

Ніхто не вучыў чалавека быць жорсткім, не прымушаў станавіцца такім. Гэта, відаць, у крыві.

Існуе думка, што самыя жорсткія на свеце - гэта дзеці. Магчыма, і так. Асабліва падлеткі. Яны ненавідзяць іншых. Часцей тых, хто адрозніваецца па нейкіх прычынах ад іншых.

Зірніце хаця б, як цяжка парой бывае адаптавацца новенькім. Яны трапляюць у новы калектыў і шукаюць у яго разумення. А што знаходзяць? Ганебныя адносіны, касыя позіркі, перашэпты за спіной. За што? Ды за тое, што так заведзена.

**Насця НАРЭЙКА, лаўрэат Маладзечанскага конкурсу юных журналістаў «Залатое пяро».**

# Што патрэбна для шчасця?

Люба радасна выбягае на двор, кідае партфель Лёньку і бяжыць, размахваючы рукамі. Яе поўніць шчасце. Бязмежнае, чыстае, як крышталь. Хлопчык лагодна ўсміхаецца, даганяе сяброўку, і яны бягуць разам.

Сняжынкі казычуць шчокі, боты распаўзаюцца па лёдзе. Дзеці падаюць і ў адзін момант заліваюцца смехам.

Чаму ім радасна? Яны самі не ведаюць. Проста выдаўся цудоўны сонечны дзень, урокі скончыліся, можна бегчы на мост, у парк, на возера. Цэлы свет перад вачыма! Як мала, аказваецца, патрэбна для шчасця! Усяго жменька снегу, праменьчык сонца і ўсмешка сябра.

Люба бярэ Лёньку за руку і цягне далей. Партфелі ляпаюць яму па нагах, але хлопчыку не да таго. У гэтага чалавека ёсць усё, што толькі патрэба: далонька сяброўкі ў руцэ, а перад вачыма шлях. Адзін на дваіх.

**Насця НАРЭЙКА, лаўрэат Маладзечанскага конкурсу юных журналістаў «Залатое пяро».**

# Нашчадкі Караля Дэдэркі

**Прозвішча шляхецкага роду Дэдэркаў герба "Дэдэркалы" паходзіць ад назвы іх родавага маёнтка Дэдэркалы, што на Валыні.**

Перад уніяй 1569 года частка роду перасялілася ў Літву, дзе была ўладальнікам шматлікіх маёнткаў у розных ваяводствах. Сярод нашчадкаў тых, хто пакінуў родную Валынь, былі Караль Дэдэрка, скарбнік аршанскі, і яго жонка Клара з Міравіцкіх (герб "Бродзіц"). Яны аселі ў маёнтку Аборак у Ашмянскім павеце. Да гэтай сям'і таксама належалі вёскі Пузелі, Кабылкі, Капачы і частка цяперашніх Палачан. У 1720 годзе ў Аборку, у цэнтральнай частцы маёнтка, Караль Дэдэрка ўзвёў капліцу з цудадзейным абразом Святога Роха. Накант гэтага па сённяшні дзень сярод аборкаўскіх старажылаў існуе паданне пра статак панскіх кароў, які знік у лесе, і пра абяцанне пана "Тадэркі" пабудаваць касцёл, калі статак знойдзецца. Магчыма, так яно і было, бо сама назва вёскі Аборак паходзіць ад старадаўняй назвы гаспадарчай пабудовы для кароў – аборы. Акрамя гэтага Святы Рох лічыцца ў каталікоў заступнікам жывёл ад пошасцей і хвароб.

Караль Дэдэрка пакінуў пасля сябе трох сыноў: Казіміра (1740–1800 гг.), Ігнацыя (1751–1829) і Дамініка (даты жыцця невядомыя). Казімір, як старэйшы сярод братоў, пасля смерці Караля Дэдэркі стаў нашчадкам усяго маёнтка і прадаўжальнікам роду Дэдэркаў. Ігнацы абраў сваім жыццёвым шляхам святарства, а малодшы Дамінік прысвяціў сябе службе вайсковай.




**Генеалагічнае дрэва Дэдэркаў – шляхецкага роду Вялікага княства Літоўскага, які звязаў свой лёс з Маладзечаншчынай.**

Рысунак Аляксандра МІЦЮРЫ.

## Першыя гербы

**Герб (польскае herb ад нямецкага erbe спадчына), сімвалічная эмблема, візуальны адпаведнік пэўнай асобы ці рода, каталіцкага закона (ордэна), горада, дзяржавы.**

Мае дзве асноўныя функцыі – рэпрэзентацыйную (прадстаўляе праз сімволіку гістарычныя абставіны свайго ўзнікнення, дзяржаву, зямлю, горад, асобу, якім ён належыць) і распазнавальную (вылучае і падкрэслівае адметнасць свайго ўладальніка).

## Крыніцы гербавых эмблем

**Першыя гербы ўзніклі ў канцы XI—XII ст. у часы крыжовых паходаў. Крыніцамі гербавых эмблем найчасцей былі пячаткі, вядомыя са старажытнасці.**

Ранні герб уяўляў сабою шчыт з выявай (галоўны атрыбут), потым у склад герба ўвайшлі гэлм (шлем), кляйнот (фігура на гэлме), намёт (напачатку — намочаная тканіна, якой накрывалі гэлм ад сонца), карона. У познім сярэднявеччы ў гербе з'явіліся менш абавязковыя элементы — шчытатрымальнікі, дэвізная стужка і ордэны.

**Гербавыя выявы падзяляюцца на геральдычныя фігуры (1-га і 2-га парадку) і звычайныя (натуральныя і штучныя). Колеры ў гербе ствараюцца фарбамі (чырвоная, блакітная, зялёная, пурпуровая [фіялетавая], чорная) і металамі (золата і срэбра [жоўты і белы]), скарыстоўваецца таксама футра (гарнастая і вавёркі). У гербах беларускай шляхты пераважаюць чырвоныя і блакітныя фарбы, футры практычна не ўжываюцца.**

У Вялікім княстве Літоўскім гербы з'явіліся ў 2-й палове XIV стагоддзя, найбольш старажытны герб вядомы па пячатцы баярына Вайдылы (1380). Легендарная частка літоўска-беларускіх летапісаў згадвае герб «Кітаўрус», «Калюмны», «Урсін», «Ружа» і «Пагоня».

**Ведаючы правілы геральдыкі, па асабістым гербе можна дакладна вызначыць паходжанне і родныя сувязі яго ўладальніка. У першым полі ставіцца герб бацькоўскага роду, у 2–м – мацярынскага, у 3–м – роду бабулі па бацьку, у 4–м – бабулі па маці, у 5–м – прабабулі па бацьку (бабулі па бацьку). Больш складаныя гербы сустракаюцца рэдка. Пастаўлены коса шчыт, прылбіца, павернутая ў профіль, сведчаць пра старадаўняе паходжанне роду.**

**Пасля кастрычніцкіх падзей 1917 года, паводле дэкрэта ЦВК і СНК Расіі ад 10(23) лістапада 1917 года "Аб скасаванні саслоўяў і грамадзянскіх чыноў", правы на асабістыя гербы былі абвешчаныя скасаванымі.**

# Ігнацы Дэдэрка – першы мінскі біскуп

**Ігнацы Дэдэрка, абраўшы лёс святара, тэалагічныя навукі вывучаў у Віленскай акадэміі і пасля яе заканчэння ўступіў у ордэн Іезуітаў, а ў 1776 годзе быў пасвечаны ў сан свецкага святара сурфаганам Тавіянскім, пасля чаго пачаў пастырскую працу пад імем айца Якуба пры віленскай катэдры.**

Сваёй старраннасцю ў выкананні абавязкаў святара, жыццёвым прыкладам, красамоўствам і стаючымі рысамі характару ён у хуткім часе здабыў павагу. У 1777 годзе Якуб Дэдэрка ўзначальвае кіраўніцтва капліцы Божага Цела ў касцёле Святога Яна ў Вільні. У 1781 годзе ён ужо канонік віленскага капітула. У гэты час урад Рэчы Паспалітай праводзіць некаторыя рэформы, накіраваныя на паляпшэнне становішча ў краіне. Духавенства таксама прымае актыўны ўдзел у правядзенні рэформаў, таму актыўны ксёндз Якуб трапляе на вочы дзяржаўных асоб і ў 1784 годзе атрымлівае ад Караля Радзівіла ў падарунак за сваю дзейнасць званне віленскага прэлата. У 1789 годзе апошні кароль Рэчы Паспалітай Станіслаў Аўгуст Панятоўскі ўзнагароджвае Якуба Ігнацыя Дэдэрку ордэнам Святога Станіслава. У 1794 годзе Якуб Дэдэрка ўзнагароджаны яшчэ адной высокай узнагародай – ордэнам Белага Арла.

У гэты час патрыятычная шляхта, мяшчане, прагрэсіўнае афіцэрства і духавенства спрабавалі захаваць незалежнасць дзяржавы, вярнуць страчаныя пасля другога падзелу ў 1793 годзе Рэчы Паспалітай тэрыторыі і працягваць прагрэсіўныя рэформы. Паўстанне Тадэвуша Касцюшкі ў 1794 годзе скончылася паражэннем. Рэч Паспалітую акупіравалі расійскія, прускія, а потым і аўстрыйскія войскі і ў трэці раз падзялілі.

У гэты час Якуб Дэдэрка, якога абралі дэлегатам Віленскай, Луцкай і Алыцкай калегіятаў, неаднаразова сустракаецца з генерал–губернатарамі Крычэтнікавым і Тутамілінным па справах абароны правоў каталіцкага духавенства, а таксама касцельных фундушаў і скарбаў. У 1795 годзе кароль Станіслаў Аўгуст Панятоўскі адрокся ад трона на карысць расійскай імператрыцы Кацярыны II, пасля чаго федэратыўная дзяржава Рэч Паспалітая і абедзве краіны ў яе складзе – Вялікае княства Літоўскае і Польшча – спынілі сваё дзяржаўнае існаванне, а іх насельніцтва апынулася ў складзе іншых дзяржаў. Якуб Дэдэрка зноў у якасці дэлегата па абароне правоў каталіцкай царквы накіроўваецца ўжо да расійскага імператара Паўла I. Сваім указам ад 28 красавіка 1798 года Павел засноўвае Мінскую Дыяцэзію і прызначае Якуба Ігнацыя Дэдэрку першым мінскім біскупам. Пасля атрымання біскупскага посаха і ўрачыстага ўезду ў Мінск Якуб Дэдэрка заняўся арганізацыяй новай дыяцэзіі. Ён стварыў капітул, устанавіў прыбытак ад збораў з парафіі, аздобіў катэдру і заклаў "Таварыства дабрачыннасці" ў Мінску. А ў 1810 годзе па волі ўрада інаўгураваў іезуіцкую акадэмію ў Полацку. За сваю дзейнасць мінскі біскуп Дэдэрка быў адзначаны ўзнагародамі Расійскай імперыі: у 1808 годзе атрымаў ордэн Святой Ганны першай ступені, а ў 1812 годзе – ордэн Святога Уладзіміра II ступені.

**Сваёй старраннасцю ў выкананні абавязкаў святара, жыццёвым прыкладам, красамоўствам і стаючымі рысамі характару ён у хуткім часе здабыў павагу.**

Але каталіцкае духавенства было незадаволенае змяненнем свайго статуса ў сувязі з пераходам у новую дзяржаву. Святары прымалі ўдзел у тайных таварыствах, а ў вайне 1812 года многія сталі на бок Напалеона. Сярод тых, хто падтрымліваў французскага імператара быў і Якуб Ігнацы Дэдэрка, мінскі біскуп. У час вайны, 18 сакавіка 1812 года, ён абвесціў з амбона мінскай катэдры "Мінскую канфедэрацыю" і арганізаваў выезд мінскіх грамадзян у Глыбокае, каб прывітаць Напалеона. Учынак каштаваў Якубу Дэдэрку кіраўніцтва дыяцэзіі. Але гэта не спыніла яго. Дэдэрка разам з французскім атрадам ездзіць па паветах і агітуе ўступаць у армію Напалеона.

У 1814 годзе біскуп Дэдэрка вяртаецца на радзіму. Пачынаюцца часы палітыкі "ўмацавання рускай народнасці і праваслаўнай веры", якую праводзіў расійскі ўрад на землях былога Вялікага княства Літоўскага. Мэтай яе была і рэлігійная уніфікацыя. Дзеля гэтага спачатку трэба было адарваць уніяцкую царкву ад рымска–каталіцкай. Якуб Дэдэрка стараецца процідзейнічаць гэтаму. Невыпадкова, у гэтым самым годзе Віленская уніяцкая кансісторыя паведамляла, што рымска–каталіцкія святары, у асноўным з мінскай епархіі, з ведама біскупа Дэдэркі ў сваіх касцёлах спавядаюць, хрысцяць, заключаюць шлюбы, хаваюць не толькі рыма–каталікоў, але і уніятаў, забіраюць уніяцкія храмы з фундушамі, запісанымі на іх, а затым, асвяціўшы, называюць іх касцёламі. У 1814 годзе колькасць уніятаў, якія перайшлі ў каталіцтва, склала ў епархіі 197 тысяч 690 чалавек. Да рыма–каталікоў адышлі 16 уніяцкіх цэркваў з фундушамі, 9 святароў і 10 прыходаў без цэркваў. Кансісторыя была заклапочаная тым, што калі гэта будзе працягвацца, то Мінская губерня застанецца без уніяцкіх цэркваў і прыходаў. Гэта выклікала гнеў і незадавальненне расійскага імператара Аляксандра I, таму мінскі біскуп Якуб Ігнацы Дэдэрка ў 1816 годзе, зноў атрымаўшы сваю епархію, быў аддадзены пад суд мітрапаліту Сістрынцэвічу, пасля чаго імператарскім указам ад 16 мая 1816 года быў канчаткова адхілены ад кіраўніцтва дыяцэзіяй і сасланы пад нагляд луцкага біскупа ў Алыкі. Памёр Якуб Ігнацы Дэдэрка 24 лістапада 1829 года ў Алыцы ва ўзросце 75 гадоў. Пахаваны там жа ў склепе, які пабудаваў сабе пры жыцці. У родным жа Аборку на сцяле склепа роду Дэдэркаў у яго гонар таксама з'явіўся надпіс на польскай мове: кс. Якуб Ігнацы Дэдэрка, 1–ы біскуп мінскі, 1754 – 1829.

**Аляксандр МІЦЮРА.**

■ ЗДАРЭННІ

# Паміж вадой і полымем

**МАЛАДЗЕЧНА. На мінулым тыдні загарэлася трава ў вёсцы Рагазы. Агонь пагражаў жылым пабудовам, але яго спынілі. Чарговы раз пацярпела нашая прырода.**

Рагазы – невялікая вёска, якая знаходзіцца ў 4 кіламетрах ад Маладзечна. Вёска вырасла на самым водападзеле Ушы і Заходняй Дзвіны.

## Небяспечная практыка

Я першы раз падыходзіў да Рагазаў каля 11 гадзін дня 5 мая. Яшчэ з Маладзечна быў бачны дым. Першая думка: "Гарыць тарфянік". Але жыхары вёскі запэўнілі, што гэта гарыць іржышча на полі. Прычым, сцвярджалі яны, падпал зрабілі ні дзеці, ні адпачываючыя, а калгасы, ва ўласнасці якіх знаходзяцца сельскагаспадарчыя ўгоддзі.

Ля Рагазаў сыходзяцца палі гаспадарак з цэнтрамі ў Хажове і Цюрлях. Вяскоўцы казалі, што гарэла і ў нядзелю, і ноччу ў панядзелак. Чорныя ўчасткі выпаленай травы раскінуліся на некалькі гектараў.

Калі мы былі на месцы, полымя гарэла паласой шырынёй ад 0,5 да 1 кіламетра. Да вёскі заставалася метраў 300. Паміж іржышчам і вясковымі садамі няма нават простай грунтавой дарогі, якая магла б затрымаць агонь. Цяпер проста пашанцавала, што вецер дзьмуў у адваротным ад Рагазаў напрамку.

Акрамя бяспекі людзей, варта заваастрыць ўвагу на іншым пытанні. Што гэта падсечна-агнявое земляробства ў пачатку XXI стагоддзя, калі зямлю спачатку выпальваюць, а затым засаджваюць? Па тэхналогіі трэба выкарыстоўваць дыскі, а затым – плугі. Але падпаліць, відаць, прасцей. А



Выпаленая зямля. 5 мая, вёска Рагазы, 4 кіламетры ад Маладзечна. Агонь ад падпаленага ржышча пагражае сельскім дамам і гаспадарчым пабудовам.

Фота Сяргея МАЦЮШОВА.

хімічныя элементы павінныя вяртацца ў глебу, а не пускацца ў дым. Самі збядняем глебу, а потым скардзімся на дарагоўлю ўгнаенняў.

Ды і ці варта паліць салому? "РГ" ўжо пісала пра вёскі Занарач і Дружная, дзе з той жа саломы пабудаваныя добротныя і недарагія экалагічныя катэджы. А на Маладзечаншчыне замест патэнцыяльных дамоў маглі спаліць рэальныя рагазаўскія хаты. На жаль, такая практыка спальвання ржышча і саломы распаўсюджаная на палях у нашым рэгіёне.

У той жа дзень аўтар матэрыялу паведаміў інфармацыю пра падпал у Рагазах старшыні Маладзечанскага райвыканкома **Сямёну Касабуцкаму**. Ён загадаў старшыні калгаса «Маладзечанскі» неадкладна ўзяць сітуацыю пад кантроль.

## Людзі на балоце

Галоўная адметнасць вёскі – сажалка, абапал якой размясціліся хаты. Рагазаўцы на мінулым тыдні аказаліся паміж вадой і полымем.

Сажалка гэтая займае міжмарэннае паніжэнне, якое ў пасляледніковы перыяд стала балотам. Яна знаходзіцца якраз пасярод вёскі. Раней на гэтым месцы вялася нарыхтоўка торфу. Потым кар'ер запоўніўся вадой. Цяпер сажалка ў Рагазах выкарыстоўваецца як супрацьпажарны вадаём.

Сама сажалка – мелкая, з забалочанымі берагамі. Праз канаву, якую выкапалі вяскоўцы, вада цячэ ў балотца пасярод вёскі і за закінутым чыгуначным насыпам губляецца ў лужынах сярод палёў. Сілкуецца вадаём ападкамі, якія нясуць з сабой рэшткі гною, пылу, іншай арганікі.

Цікава, як расказалі вяскоўцы, што сажалка, калі і цвіце, то не кожны год. Справа ў тым, што палову акваторыі вадаёму займаюць зараснікі вышэйшай воднай расліннасці. А яна з'яўляецца харчовым канкурэнтам шкодным зялёным водарасцям і ўтылізуе паступіўшую арганіку. І яшчэ ад былога балота захаваўся значны сток грунтавых вод. Таму пасярод Рагазаў не пераводзіцца рыба.

Што тычыцца пытанняў экалагічнай бяспекі, то добра, што рагазаўцы дзеля асабістых патрэб спажываюць ваду з калодзежак, а не з сажалкі. У самой сажалцы таксама не пакупаешся, бо дно ўсеяна шклом, бляшанкамі з-пад кансерваў і іншым колюча-рэжучым смеццем.

Суседства вяскоўцаў з вадаёмам нясе некаторыя нязручнасці. Да шэрагу хат вясной і восенню нельга дабрацца на машыне. Вясковыя вуліцы забалочаныя і месцамі больш нагадваюць дрыгву. Не заўсёды туды трапіць "хуткая дапамога". Хоць ты хворых на лодцы перавозь! А каб памяняць балон з газам, яго на руках трэба несці на сухое месца. Забалочаныя ўчасткі і мелкаводдзе – добрае месца размнажэння камароў. А некалькі агародаў, якія знаходзяцца блізка да закінутага насыпу, перанасычаныя вільгаццю.

І людзі, і сажалка, у прынцыпе, могуць суіснаваць гарманічна. Але дзеля гэтага трэба было б крышку прывесці ў парадак водны аб'ект: пачысціць яго, зрабіць па ўсяму перыметру невялічкую дамбу, якая б служыла дарогай. А дзеля большага сцёку – паглыбіць і падоўжыць вывадную канаву. Тады і Рагазы стануць больш прывабнымі як для дачаў, так і для жыцця вяскоўцаў. Ды і ў сажалцы вадзіліся б не толькі карасі.

**Алег БЯГАНСКІ.**

■ КРЫЛАТЫЯ СЯБРЫ

# Верабей – птушка года

**Грамадскае аб'яднанне "Ахова птушак Беларусі" 2003 год аб'явіла годам вераб'я. Чым жа цікавая гэта маленькая птушачка?**

Усяго ў Еўропе сустракаецца 5 відаў гэтай птушкі. Беларусь насяляюць 2 віды – дамавы і палявы. Прычым палявы верабей жыве як паблізу жылля чалавека, так і па-за населенымі пунктамі. Дамавы ж – толькі ля жытла людзей. Адрозніваюцца гэтыя віды і па знешнасці. У самцоў і самак палявога вераб'я пер'е аднолькавай афарбоўкі: "шапка" на галаве – карычневая, на шэрых шчаках – чорная пляма. У дамавога самца шэрыя "шапка" і шчокі, спераду бачны чорны "гальштук". У самак галава бураватая, крыху праследжваецца светлае "брыво" над вокам.

Еўрапейская папуляцыя дамавога вераб'я складае 54-180 мільёнаў пар. У Беларусі колькасць дамавога віду складае 2,1-2,3 мільёна пар, палявога – каля 0,9 мільёна пар.

Дамавыя вераб'і жывуць аседла. Іх гняздо будуецца ў нішах і пустэчах дамоў. Кладка – 6-8 буравата-белых яек. У сезон бывае па 2 вывадкі. Птушанят выкормліваюць насякомымі, вусенямі, лічынкамі, чарвякамі.

У дарослых птушак няма недахопу ў корме, бо яны жывуць побач з чалавекам. Да іх "паслуг" — сметнікі, рэшткі ежы хатніх жывёл. Значнае месца ў рацыёне адводзіцца насенню і пладам раслін. Узімку птушкі сілкуюцца з кармушак сланечнікам, просам, пшаніцай, клююць несалёнае сала.

Гэтыя просценькія на першы погляд птушкі неардынарныя ў многіх адносінах. Дамавы верабей аказаўся настолькі магутным, што змог наклікаць на сябе гнеў кітайскіх камуністаў за тое, што яны знішчалі рыс на палях. Тады колькасць птушак скарацілі, але ўраджай рысу дастаўся не чалавеку, а вусеням. А вось у амерыканскім горадзе Бостан гэтай птушцы пабудавалі помнік.

У наш час у краінах Заходняй Еўропы папуляцыя дамавога вераб'я катастрафічна зніжаецца. У Вялікабрытаніі птушка аб'яўленая знікаючай і знаходзіцца пад аховай дзяржавы. У 2000 годзе ў Лондане выявілі ўсяго 8 асобін. Пытанне захавання дамавога вераб'я разглядалася ў англійскім парламенце. Каб падобнае не стала адбывацца ў нас, сёлетні год і аб'явілі годам вераб'я. Любы від, любое звяно не лішняе ў экалагічнай сістэме, і калі мы страцім нешта адно, можа змяніцца ўсё астатняе.

**Алег БЯГАНСКІ.**

■ ДАВЕДКА «РГ»

# Блакітнае багацце рэгіёну

**Прэсная вада – аснова жыцця нас усіх. Без яе немагчыма вядзенне сельскай гаспадаркі і праца прамысловасці. Яна – вялікае багацце і адзін з найкаштоўнейшых прыродных рэсурсаў.**

Па запасах вады наш рэгіён – адзін з найбольш паспяховых у Беларусі. У яго нетрах знаходзіцца некалькі магутных пластоў падземных водаў. Паверхневыя воды прадстаўленыя сістэмай азёраў, вадасховішчаў, рэкаў і балотаў. Рэгіён сілкуе Балтыйскае мора і ўваходзіць у рачныя сістэмы Нёмана, Віліі і Заходняй Дзвіны.

Найбольшае па запасах вады возера Нарач – 710 млн. м³. **Астатнія буйныя азёры рэгіёну маюць наступныя паказчыкі: Свір – 104,3 млн. м³, Мядзел – 102,0 млн. м³, Мястра – 70,2 млн. м³. Большасць азёр рэгіёну мае ледніковае паходжанне.**

Сярод штучных вадасховішчаў выдзяляецца Вілейскае – 238 млн. м³. Ад гэтага вадасховішча праз Вілейска-Мінскую водную сістэму штогод перакачваецца прыкладна 382 млн. м³ вады.

Рэкі – самы дынамічны кампанент паверхневых вод. Яны поўнасцю абнаўляюцца ў сярэднім усяго за 7 дзён. Самая магутная рака рэгіёну – Вілія. Расход вады ў вусці складае 186 тон за секунду. Ва Ушы гэты паказчык – 6,01 т/сек, Заходняй Беразіны – 30 т/сек, Нарачанцы – 11,9 т/сек. Вілейска-Мінская водная сістэма гоніць у сярэднім 22 м³/сек, рака Ашмянка – 13,4 м³/сек, Страча – 9,1 м³/сек, Ілія – 8,8 м³/сек. У сярэднім за год з кожнага квадратнага кіламетра ў нашым рэгіёне сцякае 8 літраў вады ў секунду.



Вясковая сажалка ў Рагазах.

Фота Сяргея МАЦЮШОВА.

Балоты – адзін з самых устойлівых і карысных прыродных ландшафтаў. Яны падтрымліваюць узровень вады ў рэках і даюць прытулак шматлікім відам жывёл і раслін. У рэгіёне большасць балот – нізавыя (сілкуюцца і ападкамі, і прыроднымі водамі). Ёсць гідралагічны балотны заказнік Чарамшыца каля Нарачы. Сярод іншых балот выдзяляюцца Чысцец, Габы, Глухая Пушча, Бярозавік, Масцішча, Бярэзінскае і інш.

Так што мы – гаспадары вялікага воднага багацця. Давайце яго зберажом!

**Алег БЯГАНСКІ.**

# ВІНШАВАНКІ

**Сяргею Міхайлавічу** – генеральнаму дырэктару ААТ «Буддэталі»!

Паважаны Сяргей Міхайлавіч! Сардэчна віншуем Вас з юбілеем! Час вясны – час Вашага дня нараджэння прадвызначыў тыя рысы Вашага характару, за якія Вас паважаюць і любяць людзі – чалавечнасць, дабрату. Жадаем Вам заўсёды быць здаровым, шчаслівым, каханым!

За Вашу доброту,
За ум и труд,
За верность и тепло,
За правду Вашу и за то,
Что в трудную минуту
Вы нас не бросили, не подвели –
А провели сквозь все преграды –
Сквозь безработицу в стране,
Инфляцию и рынка перепады.
Позвольте ж Вас благодарить
И землю Новогрудскую,
что Вас взрастила,
Родителей, что подарили жизнь,
Судьбу, что Вас с Вилейкой
породнила.
Шестнадцать лет
наш славен коллектив
Не тем, что много нас,
Не тем, что молодые,
А тем, что есть у нас вожак.
Дай бог стране, чтоб все были такие.
Поверьте нам, что мы не льстим,
Когда хвалу свою слагаем.
Мы смело чувства выражаем,
Мы словом сердца говорим.
Мы просто полюбили Вас
За то, как правите Вы нами.
Прославили Вы наш завод
Талантом, верой и трудами.

*Калектыў ААТ «Буддэталі» г.Вілейкі.*

Дарагая **Ганна Міхайлаўна Мяльніцкая**, з 50-годдзем!



Юбилей! Всегда приятно это.
Мы тебе желаем от души
Радости, улыбок, счастья, света,
Тёплых встреч и пенья птиц в тиши.
Чтоб всегда над изголовьем
Источали звёзды добрый свет
И надёжной дружбой и любовью
Каждый день и миг твой был согрет!

*Муж, дзеці, унукі.*

З днём нараджэння! Дырэктара бара «Парадыз» **Ігара Аляксеевіча Шыяна** віншуюць пастаянныя кліенты бара.



Жадаюць дабрабыту ў сям'і, поспехаў у бізнесе, каб у бары заставалася дамашняя ўтульнасць, здзіўлялі арыгінальнымі і смачнымі стравамі і быў поўны аншлаг.

**Кур'яновіч Марыю Мікалаеўну, Сароку Ірыну Антонаўну.** Дарагія педагог і супрацоўніца, віншую вас з днём нараджэння. Здароўя, шчасця, удачы. *Рэгіна.*

Віншуем з днём нараджэння дарагога зяця **Мешчанку Ігара Аляксандравіча**. Жадаем здароўя, шчасця, радасці і ўдачы. *Сям'я Сялюн.*

Віншуем з 15-годдзем дарагога любімага сыночка **Кавальчука Антона** з Ілы. Жадаем здароўя, шчасця і поспехаў у вучобе. *Мама і тата.*

Віншуем з днём нараджэння дарагога мужа і дзядулю **Селюна Пятра Пятровіча**. Здароўя, шчасця, сямейнага дабрабыту. *Родныя.*

Віншую з днём нараджэння дарагую сяброўку **Барценеву Алену Іванаўну**. Здароўя, шчасця, аптымізму, кахання. *Сялюн Ірына.*

Віншуем **Сачыўку Раісу Феліксаўну** з днём нараджэння! Здароўя, дабрабыту! *Калектыў д/с №5 г. Вілейкі.*

Віншуем нашу дачушку **Скрыпцову Таццяну** з 18-годдзем! Жадаем здароўя, шчасця, радасці, поспехаў у вучобе. *Мама, тата, брат.*

Віншую **Валынца Уладзіміра** з Вілейкі з днём нараджэння. Жадаю кахання, здароўя, дабарабыту, удачы. *Мама.*

**Шылко Е.Г.** з днём нараджэння. Пусть первый подснежник отдаст тебе нежность, пусть майское солнце подарит тепло. *Жаўняровічы.*

Віншуем з днём нараджэння **Дубраўскую Яніну Іванаўну**. Жадаем здароўя, шчасця, поспехаў у працы, кахання. Цалуем, *Ніна, Ганна.*

## ІМЯНІНЫ

**16 мая**
**Праваслаўныя**: Пятра, Цімафея.
**Каталіцкія**: Андрэя, Венчыслава, Сымона.

**17 мая**
**Праваслаўныя**: Пелагеі, Ісака, Кірылы, Клімента, Мікіты, Селівана.
**Каталіцкія**: Веранікі, Брунона.

**18 мая**
**Праваслаўныя**: Якава.
**Каталіцкія**: Аляксандры, Эрыка, Яна.

**19 мая**
**Праваслаўныя**: Дзяніса.
**Каталіцкія**: Мікалая, Пятра.

**20 мая**
**Праваслаўныя**: Антона, Давыда, Івана, Іосіфа, Міхаіла, Ніла, Сцяпана, Фадзея.
**Каталіцкія**: Базыля, Бернардына.

**21 мая**
**Праваслаўныя**: Івана, Пімена.
**Каталіцкія**: Віктара, Даната, Цімафея, Яна.

**22 мая**
**Праваслаўныя**: Ісая, Мікалая.
**Каталіцкія**: Гелены, Рыты, Юліі, Урбана.

## Кінатэатр «Радзіма»

**16-18 мая. "Формула-51"**, ЗША-Канада, крымінальная камедыя, акрамя асоб да 16 гадоў – у 21.00. **"Таксі-3"**, Францыя – у 17.00 і 19.00. 17 і 18 мая – у 15.00, 17.00 і 19.00.

**19-25 мая. "Цісні на газ"**, крымінальная камедыя, да 16 гадоў, (акрамя 22 мая) – у 17.00 і 21.00. **"Таксі-3"**, Францыя – у 19.00. **22 мая** – у 17.00, 19.00 і 21.00.

**Для дзяцей**

**17 і 18 мая. "Ліло і Сціч"**, ЗША, поўнаметражны мультфільм – у 13.00.

## ЗНАЁМСТВЫ

Жанчына 37 год, 168 см, пазнаёміцца з мужчынай без шк/звычак. Маладзечна-4, п/п МС 1154726

## Купон 20

Рэгіянальная газета

**да рубрык «Віншаванкі» і «Знаёмствы». Бясплатна змяшчаюцца тэксты аб'ёмам да 15 слоў. Ананімныя купоны не разглядаюцца. Пішыце, калі ласка, разборліва.**

ТЭКСТ

ПРОЗВІШЧА, ІМЯ, АДРАС (НЕ ДЛЯ ДРУКУ)

### Звярніце ўвагу

**Шаноўныя чытачы, калі вы хочаце павіншаваць знаёмых, блізкіх, то высылайце купон з разборліва напісаным тэкстам загадзя. Указвайце дату публікацыі – газета выходзіць па пятніцах. Бясплатна прымаюцца віншаванкі аб'ёмам да 15 слоў, якія паступілі ў рэдакцыю да аўторка ўключна. Зрабіце прыемнае сваім блізкім – павіншуйце іх праз газету!**
**Калі вы хочаце размясціць аб'яву аб знаёмстве, калі ласка, указвайце адрас да запатрабавання і нумар дакумента ўладальніка. Бясплатна змяшчаюцца аб'явы аб знаёмстве аб'ёмам да 15 слоў. Публікуюцца па чарзе. Па-за чаргой – платна. Жадаем знайсці сваё шчасце!**

■ КОНКУРСЫ

# Дэлегат ад вобласці

**МАЛАДЗЕЧНА. На мінулым тыдні прайшоў абласны злёт юных інспектараў дарожнага руху.**

Удзельнічалі 9 каманд з Крупскага, Вілейскага, Пухавіцкага раёнаў, Салігорска, Клецка, Заслаўля, Слуцка, Нясвіжа і Маладзечна. Юныя інспектары спаборнічалі за званне лепшых па тэорыі правілаў дарожнага руху, аказанні першай медыцынскай дапамогі, веданні велатэхнікі і акцёрскім майстэрстве.

Па суме балаў лепшай стала каманда з Клецка. Яна будзе прадстаўляць Мінскую вобласць на міжнародных спаборніцтвах, якія будзе прымаць Маладзечанскі раён з 21 мая на турыстычнай базе «Вілія». Чакаецца прыезд гасцей з Латвіі, Літвы, Украіны і Расіі.

**Вольга ПІЛІПЕНКА.**



**Маладзечна, 7 мая. Абласны злёт юных інспектараў дарожнага руху. Святлана Кішко з Клецкага раёна вывучае веласіпедны маршрут, па якім будзе рухацца праз хвіліну.**

Фота Юрыя КАРПІЦКАГА.

■ ПАЗІЦЫЯ

# Станіслаў Багданкевіч: «Мы можам падняцца за два гады»

**Рост цэн, жыллёва-камунальных тарыфаў, пагаршэнне ўзроўню жыцця – праблемы, якія больш за ўсё хвалююць нас. А што чакае ў будучыні? І якой бы мы хацелі яе бачыць? З нядаўняга часу адказы на гэтыя пытанні шукаюць і члены рэгіянальнага грамадскага фонду "За новую Беларусь".**

Фонд, заснаваны грамадзянамі Беларусі і Расіі, правёў у Мінску навукова-практычную канферэнцыю "Беларусь – погляд у будучыню", на якой сабраліся вядомыя эканамісты і палітолагі, журналісты і сацыёлагі. За прагнозам эканамічнай будучыні краіны журналіст Ірына Бурносенка звярнулася да аднаго з заснавальнікаў новай арганізацыі, доктара эканамічных навук **Станіслава Багданкевіча**.

**— Станіслаў Антонавіч, што падштурхнула вас на ўдзел у фондзе?**

— Адна з прычын таго, што я ўвайшоў у лік заснавальнікаў гэтай арганізацыі, — яе накіраванасць на сумесную работу беларусаў і расіян. А нам, я ўпэўнены, трэба падтрымліваць цесныя адносіны – эканамічныя, культурныя і іншыя – з усходнімі суседзямі, таму што пры жаданні мы можам атрымаць ад гэтага суседства толькі выгаду і карысць.

**— Якім вам бачыцца будучае фонду? Ці стане ён важкай палітычнай сілай?**

— У нашага фонду няма палітычных амбіцый. Мы стварылі яго для даследчай дзейнасці, стварэння антыкрызісных праграм.

**— На канферэнцыі фактычна была прадстаўлена новая эканамічная праграма. Ці адрозніваецца яна чым-небудзь ад іншых, прапанаваных партыямі і грамадскімі арганізацыямі?**

— У прыватнасці, мы хочам дасканала даследаваць крэдытную сістэму Беларусі, чаго яшчэ ніхто не рабіў. Але, скажу вам, у нашай эканоміцы столькі праблем, што хопіць работы і нам, і аўтарам іншых праграм.

**— Як вы думаеце, колькі мы яшчэ зможам пратрымацца на плыву пры ўсіх гэтых праблемах?**

— Я неаднойчы гаварыў, што мы можам "паміраць" у эканамічным сэнсе бясконца доўга. Прывяду ў прыклад Паўночную Карэю. Там людзі ўжо траву жуюць, а жывуць! Наша эканоміка можа дайсці да поўнай дэградацыі, і пры гэтым народ будзе падтрымліваць падобную палітыку – гэта пацвярджаецца вопытам многіх краін, асабліва азіяцкіх. Але я спадзяюся, што нашы суграмадзяне адчуюць сябе ўсё ж еўрапейцамі і крок за крокам прыйдуць да разумення таго, што без рэформ не абысціся. Тут нам і трэба працаваць: даваць людзям праўдзівую інфармацыю.

**— Калі ваша праграма эканамічных рэформ пачне дзейнічаць, то колькі часу народ будзе чакаць лепшага жыцця?**

— Наша праграма будзе рэалізаваная толькі пры змене ўлады. Калі краіну ўзначаліць чалавек, які ставіць інтарэсы дзяржавы вышэй нейкай ідэалогіі, то рэформы пачнуцца. А вынікі іх праявяцца праз гады два, калі падымецца на ногі малы і сярэдні бізнес. Кітаю хапіла пяці гадоў, каб з краіны, дзе людзі галадаюць, ператварыцца ў аднаго з буйнейшых пастаўшчыкоў харчавання ў свеце. Там дастаткова было стварыць умовы для прадпрымальнікаў.

Да слова, наша даследчая і асветніцкая дзейнасць ужо сёння ўплывае на ўладу. Вось парламент пачаў разглядаць праект па лібералізацыі ліцэнзавання, у якім прадугледжваецца заяўляльны прынцып: захацелі вы, напрыклад, адкрыць цырульню, далі адрас падатковым службам – і спакойна працуйце. А пакуль што рэгістрацыя і ліцэнзаванне застаюцца непераадольнымі бар'ерамі для многіх жадаючых пачаць сваю справу. Вельмі шмат карупцыі і бюракратыі.

**— На ваш погляд, ці змяніліся апошнім часам адносіны мясцовых улад да рэформ?**

— На жаль, амаль не. У рэгіёнах па-ранейшым тармозяць рэформы. Часта не дазваляюць працаваць тым, хто канкуруе з мясцовымі дзяржаўнымі прадпрыемствамі, не даюць ліцэнзіі, забіраюць памяшканні. А тым часам, па афіцыйных дадзеных, у краіне больш за палову стратных прадпрыемстваў. Калі ж браць ва ўвагу высокую інфляцыю, то двое з трох вытворцаў працуюць з "мінусам". Яны не могуць ні зарплаты выплаціць, ні вытворчасць абнавіць. Мы бяднеем.

**— Магчыма, рэгіёнам перашкаджае тое, што яны не могуць распараджацца сваімі грашыма. Я ведаю, што старшыня папячыцельскага савета фонду Васіль Лявонаў прапануе зрабіць мясцовыя бюджэты самастойнымі. Ці дапаможа ім гэта?**

— Я прытрымліваюся пазіцыі Лявонава. У нас сёння прыкладна палавіна заробленага ў рэгіёнах ідзе ў рэспубліканскі бюджэт. А мясцовыя ўлады потым просяць датацый у свае бюджэты. Гэта значыць, спачатку ў іх адбіраюць, а затым з выглядам бацькі-кармільца вяртаюць, але ўжо не ўсё. Такой фінансавай залежнасці быць не павінна: грошы трэба пакідаць рэгіёнам, а браць у іх толькі на самыя неабходныя патрэбы. Але эфектыўна гэта будзе толькі тады, калі народу дадуць магчымасць самастойна выбіраць кіраўніцтва свайго горада, раёна. Калі начальнік будзе залежаць ад людзей, сваіх выбаршчыкаў, то ён стане рэальна працаваць: глядзець за бальніцамі, за школамі і інш.

**Ірына БУРНОСЕНКА.**

